№ 5 Вільня, 4 Ліпня 1920 г. Год I

# НЕЗАЛЕЖНАЯ ДУМКА

Палітычна-грамадзянская і літэратурная часопісь

Выходзіць што тыдзень.

Радакцыя і Адміністрацыя: Вострабрамская 9—5, адчынена штодзень ад 11 да 1 г. апрача сьвят.

Асобны нумэр 2 маркі, на 1 год 100 мк. на 6 месяцоў 50 мк., на 3 мес. 25 мк. на 1 м. 8 м.

## Сучасная вайна і Беларусь.

Вайна, якая цяпер вядзецца паміж Польшчай і Расеяй, асабліва астатнія баі з пераменным шчасьцем, вельмі цікавяць ўсю Эўропу. Заняцьце Польскімі войскамі Украіны з Кіевам вызвала у Расеі і эмігрантскіх расейскіх кругох загранiцай вялікі патрыотычны настрой і страшэннае абурэньне процiў Польшчы. Гэта абурэньне, а так сама умелая тактыка бальшавiцкай улады, не прамінуўшай выкарастаць момэнт, як у Расеі, так і загранiцай, зрабіла тое, што амаль ня ва ўсіх гасударствах Эўропы сярод працоўнага народу пракацілася хваля сымпатый да Расеі і нездаволеньне Польшчай. У многіх старонках польскае наступленьне было залічана, як жаданьне польскай буржуазіі скарыстаць часовую слабасьць Расеі і заняць пад сваю уладу, як мага, больш зямель з украінскім і беларускім насяленьнем. Працоўны народ Эўропы, пакончыўшы сусьветную вайну, але усё яшчэ спачуваючы на сваёй сьпіне яе цяжар, хоча цяпер справядлівага міру, міру заснаванага на тым, каб усім народам, у тым ліку і беларусам, было дано права самым вырашыць свой лёс. Працоўны народ ведае, што калі і пасьля гэтай вайны мір будзе пабудованы на карысьць аднаму народу і на згубу другому, то такі мір будзе не даўгалетні. Пройдзе пяць, дзесяць, а можа і больш гадоў, і пальецца ізноў кроў, пачнецца руйнавацца народнае багацьце, і у рэзультаце прыйдзецца перажываць тыя нешчасьця, якія перажываюцца амаль ня ўсім сьветам цяпер.

Вядома, што ня ўсе народы маюць у сябе патрэбныя для сябе багацьця, але, дзякуючы густым сеткам чугунак, тэлеграфаў і тэлефонаў, цэлы сьвет зьвязан цяпер паміж сабою вельмі цесна. І вось, пры помачы тэлеграфных і тэлефонных дротаў, народы у кожны момэнт могуць паведаміць друг друга аб тым, чым хто багат і чаго недахват. Згаварыўшыся па гэтым дротам, яны па чугункам робяць абмен сваіх тавараў. Такім чынам у мірны час народы, ня гледзючы на тое, што жывуць яны ня усюду у аднолькавых варунках, могуць карыстацца адны дастаткам другіх. Як толькі пачынаецца вайна, закрываюцца граніцы, абрываюцца міжнародныя зносіны, і на вялікім зямном целе перастае правідловая цыркуляцыя крыві: сьвет хварэе.

Працоўны народ усе гэта добра ведае і стараецца, каб надалей войны спыніць, а так сама спыніць і сучасную вайну паміж Польшчай і Расеяй, бо яна вядзецца без усякай патрэбы.

Самы багаты на сьвеце ангельскі народ, менш з другіх ваюючых народаў пастрадаўшы ад вайны і больш за усіх атрымаўшы выгад, цяпер стараецца, як мага хутчэй, спыніць сучасную вайну, каб яна не разгарэлася зноў у сусьветны пажар і дзеля гэтага прыймае розныя крокі. Карабельныя грузчыкі адмаўляюцца нагружаць на караблі ідучыя у Польшчу тавары, каб гэтыя тавары не былі выкарастаны у вайсковых справах. У ангельскім парлямэнце ідуць гарачыя спрэчкі аб тым, каб прымусіць Расею з Польшчай памірыцца. Варшаўская газэта „Работнік" (№ 150) паведамляе, што на адным пасяджэньні былі вось якія дэбаты: соцыялістычны дэпутат Маклян дамагаецца, каб Англія хутчэй пачала гандлёвыя зносіны з Расеяй, адкуль спадзеваецца атрымаць многа прадуктаў

і пахваляе ангельскіх работнікаў, адказаўшыхся нагружаць на караблі ваенную аммуніцыю для Польшчы. «Было-б лепей патапіць амуніцыю у моры, чым высылаць яе у Польшчу», кажа дэпутат. Далей ён нападае на палітыку свайго ураду і сьведчыць, што ангельскі прапоўны люд хоча, каб Англія адказала Польшчы, як у маральнай, так і матэр'яльнай помачы і каб Урад ясна засьведчыў і засьвядчэньне гэта увеў у жыцьцё, каб надалей з нашага краю ня йшла амуніцыя у Польшчу і каб гэта было падцьвержана саўсім ясна. Рабочы кляс хоча каб ангельскі Урад дабіваўся перадачы Польшчай і Расеяй сваіх скарг на суд Лігі Народаў. Калі Польшча жаліцца на Расею, а пасьледняя на Польшчу, то гэтым утвараецца найлепшая аказія дзеля умешаньня Лігі Народаў. На тым самым пасяджэньні другі дэпутат Макіндэр вось што гаворыць аб нас: „паміж Польшчай і Расеяй, кажа ён, ляжыць старонка, так званая Беларусь; калі запытаць жыхара гэтае старонкі хто ён паляк, ці расеяц — так ён зірне на пытаючага з здзіўленьнем і у свой чарод запытае— ці маеце ў думцы каталікоў, ці праваслаўных. Бо каталік у яго паняцьці ёсьць бязпрыменна паляк, а праваслаўны расеяц. Ен ведае, што быў паданым Расеі, а яго продкі былі паданымі Польшчы, што ён паходзіць з Вільні, Горадні, альбо Менска. Беларускія сяляне нацыянальна зусім не сьвядомы, дзеля чаго іх можна зрабіць, як расейцамі, так і палякамі. Палякі хочуць, пры замірэньні з Расеяй, забясьпечыць сябе, каб на выпадак другой вайны, такая вялася-б, як найдалей ад самай Польшчы, каб не вясьці барацьбы на сваей уласнай зямліцы". Вось як судзяць аб нас за граніцай. Як ня сумна, а прыходзіцца прызнацца, што дэпутаты Ангельскага Парляманту гавораць аб нас праўду, хацяі горкую для нас. Вялікая наша няшчасьце у тым, што да гэтых пор мы ня ведаем хто мы такія, што мы нацыянальна несьвядомы. Праўду гавораць гэтые дэпутаты і аб нашых суседзях.

Пры нашай нацыянальнай свядомасці гэтых спорак ня было б. Мы хутка пабудавалі б сваё уласнае гасударство, і тады нашым суседзям німа чаго было-б дзяліць, незашта было весці цяперашнюю вайну і ня трэба было-б шукаць чужой тэрыторыі дзеля вайны у будучыне.

А. К.

## Культурныя паны.

Жывець у Вільні пан з нашага, дзьвінскага, боку, каторы надта любіць загнуць часам у газэце невялічкі артыкульчык і падпісацца:

— Эўзэбіюш Лапацінскі.

Як прыйшлі у Вільню легіоны, надрукаваў пан у № 5 газэты «Nasz Kraj» пісьмо да сваіх сяброў, каторае пачыналася так:

## Коапэратыў і крама гандляра.

Чорны Борух, як клікалі крамніка у мястэчку П., быў чэлавек з грашыма. Дзеці яго вучыліся у гімназіі і гаварылі чыста па расейску, хадзілі у багатых вопратках; дружбу вадзілі з такімі ж жыдоўкамі як і яны самі. Борух з мужыкамі трымаў сябе як які дабрадзей, бытцым тады, як даваў ім тавар на павер з сваей крамы, ён рабіў Бог ведае якое дабро, а тым часам, сваім чарадом, налічаў на тавар вялікія барышы. Але вось пашла гутарка, што у мястэчка прыеждажаў якісь інструктар рабіць коапэратыў. Гаварылі, што гэты інструктар ужо быў у вучыцеля і у Янкі, быўшага каліс хадаком у Гасударственую Думу, і што бытцам ужо пачалі складаць паі. Калі сяляне, купляючы у Боруха, казалі яму пра гэта, дык ён робіў міну што гэта яго ня дужа цікавіць і казаў:

— Нічога з гэтага ня выйдзе. Набяруць грошы, а тады і будуць у свой кішэнь гандляваць Няўбачыце вы ні грошаў ні тавараў...

— Не! —, казалі яму сяляне,—Янка гэтага ня зробіць. Гэта чалавек пэўны... яму верыць можна...

— Ну, ну! Глядзіце.. Прападуць грошы...

— Прападуць, дык што-ж.. Папрабуем.

Прыкідацца то Борух прыкідаўся, што яго коапэратыў ня дужа цікавіць, але сваім чарадом вельмі баяўся, каб і запраўды ня з[illegible]уся у мястэчку коапэратыў. Ен ужо [illegible]даў, ездзючы па свету

„Ледзь нашы рыцары ўвайшлі ў Вільню, ледзь штандары з белым арлом над намі заясьнелі, а ўжо некаторыя нашы землеўласьнікі думаюць толькі аб помсьце дый аб тым, як скарэй спагнаць свае мат'ральныя шкоды; я чуў, што ўжо некаторыя маняцца ехаць у свае двары ды там, карыстаючыся стасункамі з вайсковымі асобамі, пакараць вінаватых“ .. і г. д.

Пан праекту гэтага не хваліў і казаў, што паны павінны наш беларускі народ «pociągnąć do Polski, przykładem jaśnieć, kulturę szczepić»...

Ды кожды мудрэц мoжа спракудзіцца,—кажа старадаўная прыказка. І вось культурны і мудры Эўзэбіюш Лапацічьскі спракудзіўся, самахоць запрогшыся ў адны калёсы з культурным і мудрым ворагам польскіх «інародцаў» панам Студніцкім. Ім заманулася выгнаць беларусаў з спрадвечных беларускіх базыльянскіх муроў. Ня маючы ніякага праўнага падходу, паны пайшлі другою дарожкаю. Вядома, што уніяцкая вера ніколі ня была вераю «польскаю», а ўважалася панамі за веру „простую“, „хлопскую“, бо ў уніяцтве былі мужыкі беларускія і ўкраінскія. Але што значыць паном у разе патрэбы спусьціцца ніжэй і уніяцкага сьвятога Іасафата Кунцэвіча, палічыць за „свайго“, каб толькі захапіць муры. Калі-ж гэты пункт будзе слабы, трэба скарыстаць з таго, што Міцкевіч быў заключоны у базыльянскіх мурох... Гэтага мала, і паны пачынаюць баламуціць народ, што «праваслаўнае духавенства зрабіла з пакою, дзе сядзеў Міцкевіч, месца, аб каторым не гаворыцца»...

Ах, пане Лапацінскі! Добра, пан, шчэпіш культуру... Каб падбухторыць цёмных людзей, каб распаліць у іх непатрэбны шовінізм, каб падкапацца пад віленскае беларускае гняздо, пане, прафануеш, расьпінаеш памяць вялікага Адама. Гэтае непатрэбнае месца, аб каторым ня варта гаварыць, а пан з гэткім смакам гаворыць, яно створана самай благой фантазыяй, — навошта ж, пане, пэцкацца пану? Наш базыльянскі будынак ня сяньні змураваны з тым месцам; не рабілі ж гэтага месца беларусы, пад якіх пан падводзіць міну; а хто і рабіў яго там некалі, дык мог і ня ведаць, дзе сядзеў Міцкевіч, як ня ведае гэтага напэўна і сам аўтор бруднай выдумкі; а калі хто і ведаў, чаму-ж ён дагэтуль не паклапаціўся, каб чыстым спосабам і бяз славы аб гэткай непатрэбнай справе зьнішчыць сьляды хоць бы толькі дапусьцімага злачынства і належна ўшанаваць памяць поэта? Урэшце, навошта было ўвадзіць у грэх „Nasz Kraj“, калі ёсьць на тое чарнасоценны „Dziennik Wileński?

Ай, пане Лапацінскі! Як жа пан уваляўся...

А яшчэ бурузьдзіў нешта аб культуры і меўся „przykładem jaśnieć“... Надта панская культура! Адраджэнец.

---

па тавары, што у іншых мяйсцох такія коапэратывы шмат нарабілі шкоды такім жа гандлярам, якім быў і Борух. Калі у пятніцу запалілі свечкішабасоўкі, і уся сям'я Боруха села за стол вячэраць, дык шмат было гутаркі аб тым, як бы зрабіць, каб перашкодзіць аткрыцьцю коапэратыва. Жонка Боруха, старая жыдоўка радзіла тый тавар, які будзе у іх і у коапэратыўнай краме, прадаваць хаця б і з стратай, абы толькі людзі ня йшлі у коапэратыў, бо ўсё роўна можна ўзяць сваё на тым тавары, якога ня будзе у коапэратывэ. Трэба ня выпускаць з сваіх рук пакупцоў. Дочка, якая скончыла гімназію, радзіла другое:

— Здаецца яны хочуць ўзяць ў арэнду парожнюю краму Іцыка, дык трэба парадзіцца з Іцыкам і наагул з усімі жыдкамі мястэчка, каб ніхто не даваў будынку пад краму.

Другая дочка надумала іншае: яна гаварыла:

— Трэба ўсім „нашым“ сказаць, каб яны запісаліся да коапэратыва. Можа іх выбяруць і у Праўленьнэ, а тады магчыма і у коапэратыве зрабіць добры гэшафт. Калі ж гэтага зрабіць ня ўдасца, і у коапэратыў ня выбяруць, дык трэба усяк яму шкодзіць на агульным сходзе. Трэба і каб пэнсыі Праўленьню не назначылі, а працучы за дарма, сябры Праўленьня, ці будуць красьці, ці будуць дрэнна вясьці справу, бо пэўна ніхто дарма працаваць ня будзе. За паездкі па тавар так сама лепш ці саўсім не плаціць, ці плаціць як найменш, бо і тое будве добра, [illegible] яны не так часта будуць езьдзіць

# Мова статыстыкі.

У некаторых газэтах апублікаваны цыфры дабытя статыстычнымі аддзеламі „цывільнага ўпраўленьня Усходніх Зямель.“ Гэты цыфры выразней і ярчэй, чым што іншае сьведчуць нам беларусам аб тым, што працярпела наша бацькаўшчына за апошнія шэсьць гадоў вайны і чужынскага панаваньня і зьдзеку. Статыстыка дабыла цыфры колькасьці насяленьня па нашых паветах у 1919 годзе і паставіла іх побач з цыфрамі насяленьня гэтых жа паветаў у 1911 годзе. I што-ж мы бачым? Бачым тое, што у нас няма блізка што ні воднага павету, дзе-б насяленьне ня зьменшылася на 15, 30, 45 і больш працэнтаў. На прасторы Віленскага вокругу ( да яго прылучаны Горадзенскі і Навагрудскі паветы ), насяленьне за час вайны зьменшылася на 22,7 прац., або з 2,407,446 чалав. жыўшых тут у 1911 г. да 1.633,504 чалав. у 1919 г. Найбольшае вылюдненьне есьць у Горадзенскім пав.— 47,4, прац. што залежыц ад асаблівага вылюдненьня гор. Горадні; у ім насяленьне зьменшылася больш як на палову—на 58 прац. У Троцкім павеце насяленьне зьменшылася так сама на 47,3 прац., гэта за тое, што частка гэтага павету прылучана да Ковеншчыны. У Ашмянскім пав. зьмяньшэньне выразілася у 31,7 прац., у Браслаўскім—27,2прац. і менш з усіх у Вілейскім павеце — 14,6 прац. Што датычыць Берасьцейскага вокругу, то яго насяленьне зьменшылася агулам ужо на 44,1 прац. Жыло там народу да вайны 1,937,750 чалав. і жыве цяпер 1,121,978 чал. Тут толькі адзін Мозырскі пав. дае невялікі працэнт вылюдненьня—6,2, затое есьць такія паветы як Пружанскі —60,9 прац. і Берасьцейскі —68,5прац., а у самым Бярэсьці цяпер заместа 57,000 жыхароў жыве толькі 14,000. Гэткі вялікі працэнт вылюдненьня у гэтых мейсцох залежыць ад таго, што як раз на абшары цяперашняга Берасьцейскага вокругу адбыліся вялікія баі, і доўгі час праз яго тэрыторыю праходзіў фронт. Найбольш-жа бяды дасталося самаму Бярэсьцю. На абшары Менскага вокругу, які цяпер складаецца з пяцёх паветаў, ў 1911 г. жыло 1,660,553 чал., цяпер жыве —1,091,138 чал. Зьмяньшэньне выразілася ў 34,1 прац. Найбольш вылюдняў Бабруйскі павет — на 37,2, найменш Слуцкі пав. на 4,6 прац.

Цікава было-б выявіць нацыянальны склад тых людзей, якіх цяпер не хапае на нашей бацькаўшчыне, але бяз акуратнага перапісу аб гэтым трудна гаварыць. Вядома, што больш за ўсё выехала людзей з гарадоў найболш расейскага элементу і жыдоў. Жыдоў шмат павыяжджала так сама з тых мейсц, дзе былі бальшавікі, у часе іх панаваньня. Чыноўнікі павыяжджалі усе, і з іх мала хто вярнуўся. Але тым часам паўцякала многа і сялян, асабліва з тых мейсц, дзе быў фронт, былі баі, і жыць дзе было

---

па тавары. Старшынёй Праўленьня лепш усяго каб выбралі якого небудзь вялікага пана; тый пэўна працаваць ня будзе. Добра будзе калі выбяруць якого небудзь гультая, альбо пастуха... Найлепш аднак было-б, каб абабралі каго небудзь з „нашых“...

Доўга ящчэ гэргаталі маладыя у гэны вечар. Але Чорны Борух мала іх слухаў. Тое, што яны казалі, ён і сам ужо перадумаў і добра ведаў што рабіць. Не дарма ж ён „Чорны Борух“, хоць у яго ужо здаецца ні воднага чорнага валаса на галаве і у даўгой барадзе не засталася, а ўсе ужо сталі сівые.

На другі дзень раніцай, не паспеў ящчэ Борух як мае быць апранулца, ящчэ маліўся Богу,ківаючыся каля вакна, думаючы аднача не аб малітве, а аб коапэратыве, калі да яго увайшла яго дачка.

— Тата, прышоў Пятрук...

— Які Пятрук?

— Крамнік.

Борух вельмі зьдзівіўся прыходу Пятрука, бо з Пятруком яны жылі дрэнна. Пятрук так сама як і Борух меў краму, якая празывалася „Хрысьціянская крама“. Яго крамка вяла канкурэнцыю з крамай Боруха, бо была саўсім недалёка. Заўсягды, як сустрачаліся Борух з Пятруком, дык рабілі так, каб не гаварыць адзін з другім. А калі і прыхадзілася гаварыць, дык тады пазіралі больш на бакі. Мусіць сорамна ім было глядзець адзін аднаму у вочы, быццам яны укралі што небудь адзін у воднага.

— Чаго-ж ён прыйшоў? — пытаўся

немагчыма. Гэты элемэнт самы дарагі для нас — гэта ўсе беларусы. Некаторыя з гэтых уцекачоў так-сяк дабраліся да сваей бацькаўшчыны, а большасьць ўсё яшчэ недзі там на чужыне. Усё-ж такі будзем спадзявацца, што яны не забыліся аб сваей роднай зямельцы і вернуцца пад свае стрэхі як толькі надойдуць лепшыя часы.

Свой.

# На белым сьвеце.

## Новы польскі габінэт.

Начальнік дзяржавы Я. Пілсудскі назначыў новы габінет, склад каторага вось які: Старшыня і міністар фінансаў У. Грабскі, загранічных спраў кн. Е. Сапега, ваен. міністар гэн. Ляснеўскі, міністар рэлігійных спраў і асьветы Ф. Лапушынскі, земляробства і дзяржаўнай маемасьці Ф. Буяк, комунікацыі К. Бартэль, почты і тэлегр. Л. Талочка, грамадз. працы Г. Нарутовіч, харчоў Сьлівінскі, часова упраўляючы мініст. ўнутр. спраў Я. Кучынскі, юстыцыі Я. Мараўскі, гандлю А. Альшэўскі, грамадзянск. здароўя В. Ходзька. Няма яшчэ міністраў працы, грамадзянскай апекі, мастацтва і Пазнанскага краю.

## У Чэхіі

У чэскім парлямэнте адбыліся выбары прэзыдэнта Чэскай рэспублікі. Выбраны ізноў Масарык, які дастаў 284 галасы з 411 галасаваўшых дэпутатаў. У часе выбараў былі вялікія сваркі між чэскімі, нямецкімі і мадьярскімі дэпутатамі. Цікава, што аб чэскім „гнеце“ галасней за усіх крычалі мадьяры, якія у сваей старане найгорш уціскаюць усіх не—мадьяраў.

Польскія газэты пішуць, што у Чэхіі быццам дужа пашыраецца бальшавізм. Вядома, што балшавікоў патроху ёсьць у кожнай дзержаве, але ў Чэхіі іх не болей, як у іншых, ці ў тэй самай Польшчы.

## Барацьба за незалежнасьць у Ірляндыі.

Ірляндцы вядуць барацьбу за сваю незалежнасьць з Англіяй. Сінфэрэйны (ірляндскія незалежнікі) пастанавілі не прызнаваць ангельскага ураду, а кіравацца сваім рэвалюцыйным парлямэнтам. Ірляндцы нападаюць на ангельскае войска, і было некольві выпадкаў забойстваў ангельскіх чыноўнікаў. Перагаворы між Англіяй і ірляндцамі пакуль што ні да чаго не прывялі.

## У Літве

Літоўскі ўстаноўчы Сойм прыняў закон забараняючы ўласьнікам маёнткаў, маючым зямлі больш за 70 дзесяц., пра-

---

сам сябе Борух, але наказаў дачцы каб яна паклікала Пятрука.

— Здарова Борух... Я да цябе...

— Добра... сядай...

Пятрук сеў на канапі. Відаць было што ён ня ведаў з чаго пачаць гутарку.

— Ці чуў?—пачаў ён наканец.

— Што?

— Ды аб коапэратыве...

Тут толькі Борух скеміў, з чым прыйшоў Пятрук. У вачох яго блiснуў добры аганек. Ен ужо глядзеў ласкава на Пятрука. Здаецца першы раз за ўвесь час як яны зналiсь з Пятруком, Боруху здавалася, што Пятрук для яго ня вораг а прыяцель.

— Чуў... якжэ!..

— Ну што-ж рабіць?..

Доўга гутарылі Пятрук з Борухом. Борух сеў за стол снедаць, але яны і снедаючы гаварылі. Па снеданьню Боруху трэба было ісьці у школу, а ўсё яшчэ ня кончылі яны гутарку.

Да самай школы йшлі яны разам і развіталіся толькі каля варот, як самыя найлепшыя прыяцелі.

— І чорт жа прыгнаў сюды гэнага інструктара!—барматаў сабе пад нос Борух уходзючы у дьверы школы.

— Трэба пагаварыць у школе са „сваімі“, бо і у іх мусіць тая самая хвароба як і ў мяне—зрашыў ён.

Чыжэўскі.

(Працяг будзе).

даваць яе без дазволу ураду. Дазваленьне на прадажу зямлі будуць давацца тольکі з умовай, кап грошы ішлі на паляпшэньне гаспадаркі. Далей: зямля гэта можа быць прададена толькі беззямельным, ці малазямельным сялянска—гаспадарскім работнікам і не болей, як па 20 дзесяц. у адны рукі.

Нямецкая газэта „Danz. Ztg." паведамляе, што у гэты час між літоўскім і нямецкім урадамі ідуць перагаворы па пытаньню аб заключэньні нямецка—літоўскага дагавору.

У Коўні быў вялікі пожар — згарэла больш як 100 будынкаў.

# ПА КРАЮ.

**Лынтупская воласьць**, Сьвянцянскага пав.

Жыцьцевасьць беларускай справы падцьвердзілася яшчэ адным новым фактам, фактам збуджэньня ад векавечнага сну да здаровага грамадзкага жыцьця жыхароў нашае воласьці. Пачатак правікненьня розных вогнікаў-прадвесьнікаў даўна-пажаданага адраджэньня сярод тутэйшых людзцаў, дасягае амаль часоў першых легальных беларускіх друкаў у Расеі (1905). З тае пары пачынаецца прабуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці сярод нашых людзеў. Працэс гэты разьвіваўся, праўда, паволі, але з неугамонным імпэтам, аж урэшце усесьветная вайна імпэт гэты прысьпяшыла і надала яму рэзка вызначаны кірунак.

Сягоньня беларуская газэта ды кніжка сталіся настольнымі пад многімі стрэхамі сялянскіх хат, а найперш у мясцовай інтэлігэнцыі. Хто з нас сягоньня ня чуў, або і сам не дэклямаваў бязсмертных вершаў Бурачка, Купалы, Коласа і г. д.

У беларускай газэце шукае наш сялянін разьвязкі і паратунку у многіх пытаньнях, з розных галін жыцьця і, дзякуючы адпаведнай пастаноўцы праграмы большасьці сучасных беларускіх часопісяў, гэтыя апошнія знаходзяць шырокі послух сярод сялянства. У гэты момант з гонарам можам адазвацца, што рэдкая воласьць атрымлівае столькі беларускіх газэт, як наша — Лынтупская. Усё гэта сьведчыць аб шырокім прабуджэньні нацыянальнай сьвядомасьці сярод тутэйшых беларусаў.

Што да паасобных фактаў у нашай воласьці, то варта увагі школьніцтва. Як толька зьнік расейскі прыгон і прышлі немцы, грамадзянства зараз парупілася аб нацыянальнай школе, і ў вельмі хуткім часе былі пазваны да жыцьця ўласнымі сялянскімі коштамі тры беларускія пачатковыя школы.

Ураджаі селетнія прадстаўляюцца ў нас гэтак: жыта можна сказаць, усюды добрае, ярына крышку горшая, горшая з прычыны сухасьці, ды веснавыя прымаразкі пават прымаразілі яе. З ярыны найлепшыя падзеі дае гарох ды ячмень. Сенажаці, з прычыны сухасьці, расьлі ня надта.

Ужо, Богу дзякаваць, добры час пачынаць прыгатаўляць поля пад жыта, а тут, як забралі вайсковыя у хурманкі (яшчэ на Тройцу), дык некаторых яшчэ і сягоньня няма.

Дык парайце, добры людзцы, як тут быць? Ці злажыўшы рукі „як дагэтуль чакаць у Бога ласкі, ці самым за працу брацца?

С. Дутка.

# Сьвяткаваньне 15 гадовага юбілею Я. Купалы.

24-га чэрвеня беларускае грамадзянства у Менску сьвяткавала, ў дзень яго імянін, 15 гадовы юбілей літэратурнай працы Янкі Купалы (Я. Луцэвіча). Сьвяткаваньне адбылося у беларускім доме у прысутнасьці самаго юбіляра. Заля была прыгожа убрана. На свята зышліся прадстаўнікі розных беларускіх арганізацый і шмат гасьцей, усяго да ста чалавек. Юбіляра прывіталі прамовамі, у якіх прадстаўнікі беларускага грамадзянства выхвалялі талент юбіляра і падкрэсьлілі вялікае значэньне Я. Купалы у разьвіцьці беларускага культурнага адраджэньня і нацыянальнай сьвядомасьці. Дзякуючы за чэсьць і прывітаньня, Я. Купала сказаў гарачую прамову, у якой гаварыў, што гэта 15 гадовая гадаўшчына адносіцца не да яго толькі, а штат да каго з прысутных тут асоб, бо і яны так сама працавалі на карысьць беларускага руху. Далей юбіляр адмеціў тое, што «ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэньня беларускага народу. Пятнаццать гадоў таму назад некалькі шаленых галоў захацелі галавамі мур прабіваць, а сягоньня без

малага ў весь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызваленьня. Пятнаццаць гадоў таму назад аб незалежнасьці і падумаць было небясьпечна, — сягоньня нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым па дзержаўнаму гавораць з намі, як з народам, каторы заслужыў па людзскому і божаму праву гэту незалежнасьць. Адным узмахам агняцьветнай думкі і нашай волі мы патапталі даўгавечную брахню, што Беларусі няма і паказалі народу, што яна была есьць і будзе». І гэта ня гледзючы на той цярністы шлях, па якому ішлі беларусы у часе змаганьня за-долю Бацькаўшчыны. Потым паважаны прамоўца зьвярнуўся з прызывам не палохацца цяперашняга крывавага часу і таго, што рвуць нашу зямлю на часьці, бо праміне віхар, замрэ сьвіст меча і „настане сьветлы радасны час, дзень змучанага аграбленага нашага народу", і беларускі мазоль адбудуе сваю хату. „Хай толькі асьвеціць Вас адна вялікая думка—аддаць усё для сваей бацькаўшчыны". Далей юбіляр перасьцярагае сыноў Беларусі ад фальшывых пракокаў, што прадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але ён верыць, што у нас, беларусоў, прыдуць новыя людзі, новыя прарокі «і будуць па божаму над фальшывымі пракокамі суды судзіць». „З верай і надзеяй будзем ісьці", далей кліча прамоўца, „к лепшай ясьнейшай будучыне, к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасьці для усіх і для кожнага паасобку". «Наша пабеда, наша слава і шчасьце—цяпер у будучыне. З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломанай верай ў лепшую долю і волю, пойдзем уеё наперад і наперад пад сьвятым сьцягам вольнай Беларусі. Змагайся і стань чольным Беларускі Народ!» Гэтым скончыў Я. Купала, і прамова яго была пакрыта громам воплескаў. У часе прамоў у зале сьпяваў хор Тэраўскага.

Вельмі прыемна і радасна адмеціць сэрдэчнасьць і пашану, з якой прывіталі нашага слаўнага беларускага песьняра і дзеяча, імя якога вядома далека за межамі бацькаўшчыны, менскія грамадзяне. Мы ведаем, што і тыя беларусы, што ня жывуць у адным горадзе з сваім нацыянальным паэтай, душой прылучацца да гэтага агульна нацыянальнага сьвята.

# ХРОНІКА.

### Яшчэ аб Базільянскіх мурах.

Паход п. п. Студніцкага і К°, каб захапіць Базільянскія муры, ў каторых істнуюць цяперака розныя беларускія арганізацыі і беларуская гімназія, прадаўжаецца. Пасьля рэзалюцыі, прынятай польскім саюзам. «Jedności i siły», 22 чэрвеня г. г. на паседжаньні Віленскай гарацкой Рады радны В. Студніцкі ўнёс экстраную прапазіцыю, дамагаючыся, каб „магістрат пачаў адпавецныя стараньня, каб Базільянскія муры, пры Вострабрамскай вул., дзе ў сучасны момэнт месьціцца Рада, гімназія і іншыя беларускія установы, былі зьвернуты польскаму грамадзянству, для каторага яны становяць цэнную гістарычную памятку, як месца мучаніцтва польскіх народных багатыроў". (Напячатана ў № 115 „Нашага Краю"). Уносак гэты прынняты быў галасамі радных—палякоў, пры устрымаўшыхся радных—жыдох. (Беларусоў і літоўцаў ў Радзе няма). Калі абгаварывалі справу умураваньня ў кельлі, дзе быў ў заключэньні Адам Міцкіевіч, памятнай таблицы, раздаліся, як піша „Наш Край", галасы, што быццам ў сучасны момэнт там знайходзіцца непрыемны пакой, што выклікала сярод радных абурэньне. Аднычасна з усім гэтым у Віленскіх польскіх газэтах зьявіліся артыкулы, ў каторых паміж іншым, гаворыцца, што „кельля, ў каторай бясьмертны Адам быў заключаны ў Базільяноў, праваслаўным духавецтвам заменяна на месца, аб каторым не гаворыцца", што „калі ня можна адабраць кляштору (манастыра), хоць не разумею *) гэтай осылкі на сьвятое права уласнасьці, то ў каждым разе тыя дзьве кельлі у Базільянаў павінны быць адабраны фармальнай дарогай вуйлашчэньня".

Такім чынам, п. Студніцкім на ногі паднята чуць ні ўся Вільня і нават ў Варшаўскай прэсе зьявіліся артыкулы ў тым самым сэнсі аб Базільянскіх Мурах.

Гледзючы на усю гэту ня больш як дарэмную кампанію патэнтаваных рэакцыянэраў, каторым хацелася-б зава-

*) „Наш Край № 114, артыкул Эўзэбіуша Лапацінскага, як нам ведама, вялізарнага абшарніка-земляўласніка, каторы для сваіх маёнткаў „сьвятога права ўласнасьці" не адкідае. (Рэд.).

ладаць Базільянскімі мурамі і выжыць з іх беларусаў, можна-б было аставацца супакойнымі, бо польская улада, як ведама, прызнае прыватную уласнасьць.

Аднак, для таго, каб іншые легкаверные людзі не падумалі, што беларусы згаджаюцца з прынятымі пастановамі магістрату і „Jednaści i Siły", 30 чэрвеня г. г. адбыўся.

Сход прэдстаўнікоў беларускіх арганізацый м. Вільні, каторыя, абмяркаваўшы справу кампаніі, каторую вядуць адначасна з двух бакоў польская і астаткі маскоўскай рэакцыі, каб адабраць ад беларусаў адвечную беларускую нацыянальную маемасьць — Базыльянскія муры ў Вільні, каторы устанавіў, што:

1) У працягу ўсяго свайго істнаваньня Базыльянскія муры знаходзіліся ў валаданьні Беларусаў-праваслаўных і уніяцкіх манахаў і станавілі кузьню беларускае культуры.

2) Базыліянскія муры ад самага пачатку свайго істнаваньня ніколі не належалі ні да польскай гаспадарственнай маемасьці, ні да польскага грамадзянства.

3) Там-жа памешчалася і памешчаецца вялізарная базыліянская бібліатэка, створаная многавековай працай манастыра і беларускага грамадзянства.

4) Ссылка ініцыятароў кампаніі дзеля перадачы Базыліянскіх муроў польскаму грамадзянству на тое, што тут працавау прапаведнік уніі Іозафат Кунцэвіч і пакутаваў Адам Міцкевіч, не вытвымлівае ніякай крытыкі, дзеля таго, што імены сыноу свайго краю Беларусы умеюць шанаваць ня горэй за грамадзянствы іншых нацыянальнасьцяу.

5) Заява польскай прэсы, быццым так званая „Cela Konrada" апаганена, ня згодна з праўдай, тым больш, што мейсца яе дагэтуль нікім акуратна ня устаноўлена.

Дзеля гэтага сход пастанавіў:

выразіць гарачы пратэст проці нясумленнага пасяганьня на беларускую нацыянальную маемасьць, скуль-бы яно ні выходзіла, і падаць гэты пратэст да ведама усяго дэмократычнага грамадзянства краю, а таксама і Улады.

Беларус.

### Курсы для настаўнікаў.

У Вільню прыехаў сябра цэнтральнай школьнай Рады у Менску Я. Станкевіч, якому дaручана справа наладжэньня курсаў Беларусазнаўства для вучыцялёў у Берасьцейскім і Віленскім акругох.

### Справы вайсковыя.

Фармаваньне беларускага войска у Менску пасоўваецца хутка. Побач з гэтым сярод жаўнераў вядзецца і культурная праца. У 1-ай кампаніі беларускіх стральцоў пачаліся лекцыі беларусазнаўства. Жаўнерам чытаюцца лекцыіі па гісторыі і географіі Беларусі, іх знаёмяць з Беларускай літэратурай і гігіенай, а няпісьменным выкладаецца грамата. Пры кампаніі арганізавана бібліатэка. Ахфіцэры рэзэрву праслухалі курсы спэцыяльных навук, як — вайсковыя статуты, тактыку, этнографію Беларусі і інш. Запіс ахвотнікаў вядзецца, як і раней, у Менску і у Вільні.

### Кірмаш у дз. сьв. Петры і Паўла.

29 чэрвеня у дзень памяці сьв. Петры і Паўла на Антаколі адбыўся кірмаш, на які зьехалася шмат народу з ваколіць Вільні.



Рэдактар Г. Богдановіч. Выдавец У. Знамяроўскі.

Пазволена Ваеннаю Цанзураю. Друкарня. Кооп. Тавар. „ДРУК", Троцкая, 13.